


# Вескі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 5 (651)
Травень 2020 г.


## Чарнобыль і сусьветная пандэмія каронавірусу

Гэтымі днямі спаўняецца 34 гады Чарнобыльскай катастрофе, і ў першы раз за шмат год беларусы Нью-Ёрку і ваколіцаў ня прыйдуць на традыцыйны мітынг адзначыць гадавіну гэтай трагічнай даты. Ва ўмовах самаізаляцыі, татальнага закрыцьця ўстановаў і арганізацыяў, што не зьвязаныя з жыцьцёва неабходнымі патрэбамі, забаронаю публічных сходаў і мерапрыемстваў сёлетняя гадавіна Чарнобылю ня стане зьявай публічнай. Тым ня менш сытуацыя з каронавірусам надае актуальнасьці пэўным бакам Чарнобыльскай бяды, што застаецца актуальнаю ў Беларусі й па сёнешні дзень.

Міжволі напрошваюцца паралелі паміж 1986 годам і годам 2020-м. І тады, і цяпер у Беларусі пануе аўтарытарнае кіраваньне, ад шырокіх колаў насельніцтва хаваецца інфармацыя пра сапраўдны маштаб праблемаў, не праводзяцца неабходныя працэдуры й не прыймаюцца меры, што паменшылі б уплыў праблемы на беларускіх людзей. Захоўваецца добра знаёмая з савецкіх часоў паказуха, калі ў кожны спосаб улады імкнуцца зрабіць выгляд, што ўсё ў іх пад кантролем і што нават сілы прыроды ім падпарадкаваныя. І таму праводзіўся першамайскі парад у 1986 годзе, калі была крытычная сытуацыя па радыёнуклідах у паветры, і таму рыхтуецца парад на 9 траўня сёлета, у жахлівай эпідэміялягічнай сытуацыі ў Беларусі. І тады, і цяпер чалавек адчувае сябе кінутым сам-насам зь бядою, і ў гэткай сытуацыі можа спадзявацца толькі на сябе ды блізкіх і сваякоў.

Элемэнты сваволі часам трапляюцца і ў дзеяньнях мясцовых уладаў тут, у Амэрыцы, але гэта хутчэй тлумачыцца сапраўдным дбаньнем і мала нагадвае постсавецкія мэтады. Але наступствы цяперашніх падзеяў на дадзены момант цяжка прадказаць, і застаецца толькі спадзявацца на хуткае вяртаньне да нармальных умоваў.

У гэтыя дзіўныя, беспрэцэдэнтныя часы мусім шукаць спосабы віртуальнай камунікацыі, якія б маглі ў некаторых аспэктах замяніць рэальную чалавечую камунікацыю і адчуваньне прысутнасьці, датычнасьці, ангажаванасьці сярод беларускай грамады ў Амэрыцы. Добрай ідэяй ёсьць віртуальныя канцэрты, у тым ліку канцэрт Лявона Вольскага, спасылкі на якія можна знайсьці ў сецıве, прыкладам на старонцы ў Фэйсбуку "Беларусы ЗША – Разам лягчэй". У пэўны, можа і невялікі, спосаб падобную функцыю выконваюць і "Вескі й Паведамленьні". Можна было б падумаць і пра віртуальныя сходы "Пагоні", праз Webex або Zoom. У кожным разе, усялякую навалу і бяду, і Чарнобыльскую, і вурусную, найлепей спрабаваць перамагчы, пераадолець разам зь іншымі людзямі, зь землякамі, ва ўмовах добрай інфармаванасьці ды ўзаемнай падтрымкі.

**_Віталь ЗАЙКА_**

# Сацыяльнае дыстанцыяваньне: абгрунтаваньне і маразм

Давайце на хвіліну ўявім, што новы вірус COVID-19 быў на самой справе адкрыты. Уяўляць трэба таму, што ў акадэмічных колах не існуе ніякай навуковай дакумэнтацыі аб адкрыцьці і належнай рэгістрацыі гэтага віруса, як зроблена з усімі іншымі ўжо вядомымі вірусамі. Але давайце пакуль паверым пустым заявам Цэнтру па кантролю захворваньняў (CDC/ЦКЗ) і Сусьветнай арганізацыі па ахове здароўя (WHO/ СААЗ). Калі зьявіўся новы вірус, то чаму б не прытрымлівацца папярэдніх практыкаў: як мага хучэй разьвіць у людзей імунітэт. Не патрэбныя будуць ні карантын, ні сацыяльнае дыстанцыяваньне, ні самаізаляцыя. Адкрыць усіх узьдзеяньню віруса, і будзе імунізацыя натуральнім чынам, не спатрэбяцца ніякія вакцыны.

У старыя часы, калі дзіця хварэла на адзёр, бацькі іншых дзяцей прыводзілі малых да хворага і дазвалялі ўсім заразіцца хваробаю. Пабудуць у іх нейкі час чырвоныя плямы, але пра хваробу можна будзе забыцца, бо выпрацуецца імунітэт. Канечне, у такім выпадку ня будзе ніякага прыбытку для фармацэўтычных кампаніяў (Pharma/фарма). Менавіта таму ідэю натуральнай імунізацыі трэба было дэскрыдытаваць і абвесьціць небясьпечнай. Усіх пад вакцынацыю!

Вы скажаце, што з COVID-19 іншая сытуацыя. Ён сьмяртэльны. Сапраўды?

Кожны дзень, калі толькі адарвацца ад афіцыйных тэлеканалаў і мэдыяў, зьяўляецца процьма доказаў таго, што інфармацыя пра захворваньні і сьмяротнасьці цалкам сфальсыфікаваная і высмактаная з пальца. Напрыклад, Нацыянальны інстытут здароўя Італіі, пераглядаючы сьмяротныя выпадкі каронавірусу, устанавіў, што пераважная большасьць памерлых “ад віруса” паміралі не ад яго, а ад іншых, ужо раней набытых, захворваньняў. Сярэдні ўзрост памерлых 79,5 гадоў. Пра што гэта гаворыць?

Паглядзім на гэтую сытуацыю вачыма афіцыйнай мэдыцыны – эпідэміі ўзьнікаюць, дасягаюць свайго піку, перагараюць і затухаюць. Але гэта ў тым выпадку, калі людзям не забараняюць набываць натуральны імунітэт, не замыкаюць па дамах і не прымушаюць пазьбягаць адзін аднаго.

Канешне, калі вы захочаце працягнуць мэдыцынскі маразм, то трэба абвяшчаць нацыянальны карантын кожны год, калі пачынаецца сэзон грыпу. У год у Італіі ў сярэднім рэгіструецца каля пяці мільёнаў выпадкаў хваробы на грып. Дык трэба ўсіх ізалёўваць кожны год. Тое самае тычыцца і ўсіх іншых краінаў.

Хай паралізуюць усю плянэту цалкам.




А ў кароткія перапынкі паміж грыпнымі карантынамі няхай пераключыць увагу чалавецтва на, скажам, пнэўманію, іншую ўнівэрсальную хваробу, і заявіць, што прадухіліць яе можна толькі замкнуўшы людзей па дамах. У любым выпадку, хай трымаюць плянэту пад замком, прымушаюць усіх сядзець дома і, урэшце, давядуць да сьмерці ўсё чалавецтва.

Гэта падводзіць нас да тэмы імунітэту чалавека і сілы над ім трыльёнаў і трыльёнаў розных вірусаў, якія існуюць на Зямлі. Да гэтага часу імунная сыстэма людзей спраўлялася зь імі досыць пасьпяхова. Калі б ня так, чалавецтва ўжо шмат разоў вымерла б. Але стратэгія фармы такая: адкінуць прыродны імунітэт і дамагацца таксічных вакцынацыяў для кожнага віруса і бактэрыі; падрабляваць лічбы, каб выглядала, што вірусы перамагаюць; напоўніць мэдыі выдуманымі гісторыямі пра трагічныя наступствы і прывучыць людзей баяцца хваробаў.

Фарма заяўляе, што ёсьць шмат людзей, чый імунітэт аслаблены, і яны абавязаныя абараніць іх вакцынамі. І маўчыць аб тым, што людзі са слабым імунітэтам захварэюць у любым выпадку, з вакцынаю ці без. І назва віруса ці бактэрыі ня мае ніякага значэньня, іх у прыродзе незьлічоная колькасьць. Супрацьстаяць гэтаму можна толькі ўмацоўваньнем імунітэту прыродным шляхам, немэдыцынскім. Калі гэтага не рабіць, слабыя людзі будуць хварэць. Прычынаў для гэтага мноства. Таксічнае мэдыцынскае лячэньне, напрыклад, дакладна зробіць іх хворымі. Самыя пашукайце пра гэта інфармацыю. Установы аховы здароўя і нават самыя вытворцы вакцынаў у сваіх інструкцыях папярэджваюць, што адно з галоўных супрацьпаказаньняў для вакцынацыі – аслаблены імунітэт пацыента. Але гэты факт не спыняе фарму ад вакцынацыі мільёнаў людзей у краінах трэцяга сьвету, якія і так знаходзяцца на мяжы выжываньня.

Гэты факт шмат кажа пра “гуманнасьць” фармацэўтычных кампаніяў.

Людзі ў сучасным грамадстве маюць дзіўныя адносіны да сьмерці. З аднаго боку, яны кожны дзень, у рэальным жыцьці і праз тэлевізійныя перадачы, сутыкаюцца з тым фактам, што сьмерць існуе. Але гэта не выклікае ў іх амаль ніякай рэакцыі. А з другога боку, калі ўстанова аховы здароўя перадасьць тры сказы пра вірус і сьмерць, гэтыя людзі губляюць розум, падаюць на калені і моляць, каб ім дапамаглі. Вы можаце раз за разам паўтараць у іхныя пасінелыя ад страху твары, што, згодна ЦКЗ, у ЗША за год ад сэзоннага грыпу памірае прыкладна 40 тыс. чалавек, і ніякай рэакцыі гэта ў іх ня выкліча. Ніякай. Але калі мэдыі вуснамі таго ж ЦКЗ скажуць, што ў Кітаі ад новага вірусу памерла 50 чалавек, то гэтыя людзі кінуць усе справы і пабягуць скупляць ваду і туалетную паперу. Гэта нейкае калдаўство. Чорная магія. А іншымі словамі простае вар'яцтва.

Усё гэта было б вельмі сьмешна, калі б не было так сумна. Колькі часу возьме нашаму замбаванаму насельніцтву разабрацца, што іх дураць і ў ахове здароўя, і ў выбарах, і ў пераважнай большасьці справаў, дзе замешаныя вялікія грошы, і куды запускаюць свае доўгія рукі карумпаваныя дзяржчыноўнікі і глябальныя карпарацыі?

Дасьць Бог, дажывём хоць да частковага, але прасьвятленьня. Новыя шляхі пашэрэньня інфармацыі даюць на гэта надзею.

ЯЗ

Беларусь – Амэрыка: лёсы землякоў

# Натальля Арсеньнева - паэтка і грамадзкая дзеячка

Натальля Арсеньнева, беларуская паэтка і грамадзкая дзеячка нарадзілася ў 1903 годзе ў сям'і шляхетнага роду, які даў паэта Міхаіла Лермантава. Празь некалькі год пасьля яе народзінаў сям'я Арсеньневых пераехала ў Вільню, і з гэтым горадам была шчыльна зьвязаная першая палова яе жыцьця. Вільня паўплывала на яе сьветапогляд і на паэтычную творчасьць.

У Першую сусветную вайну сям'я Арсеньневых выехала ў бежанства ўглыб Расеі, у Яраслаўль, дзе будучая паэтка зрабіла свае першыя паэтычныя спробы, наведвала літаратурны гурток пры гімназіі дзе вучылася. У 1919 годзе сям'я перабралася ў Дрысу (цяпер Верхнядзьвінск), дзе Натальля блізка пазнаёмілася з моваю, фальклёрам і звычаямі беларускага сялянства і захапілася імі. Затым Натальля Арсеньнева вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі, дзе тады выкладалі Бранiслаў Тарашкевіч, Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Аркадзь Смоліч ды іншыя беларускія нацыянальныя дзеячы. Арсеньнева брала ўдзел у драматычных беларускіх пастаноўках і стала пісаць вершы па-беларуску. Першыя ейныя вершы, паказаныя Максіму Гарэцкаму, сталі посьпехам. Гарэцкі прызнаў у маладой паэтцы талент большы за Цётку і Канстанцыю Буйло.

Пасьля сканчэньня Беларускай гімназіі ў 1921 годзе Арсеньнева настаўнічала, а затым паступіла на гуманістыку ў Віленскі ўнівэрсытэт. У 1922 годзе яна выйшла замуж за вядомага беларускага вайскоўца Францішка Кушаля. Маладая сям'я паўтара гады пражыла ў Слоніме, дзе Арсеньева пасябравала з паэтам Гальяшом Леўчыкам, а затым пераехала ў Хэлмна пад заходнюю мяжу Польшчы, да месца службы мужа. Штогод Натальля Арсеньнева зь дзецьмі праводзіла лета ў вёсцы Доры на Валожыншчыне, сярод сялянаў і цудоўнай беларускай прыроды, што безумоўна спрыяла разьвіцьцю творчасьці паэткі.

У ейных вершах даваеннага часу пераважалі тэмы пэйзажнай ды інтымнай лірыкі, адлюстраваньня плыняў нутранога жыцьця, адценьняў эмоцыяў, стану душы. У 1927 годзе ў Вільні выйшаў першы паэтычны зборнік Арсеньневай "Пад сінім небам". Яна займалася таксама перакладамі твораў Адама Міцкевіча, у прыватнасьці паэмы "Дзяды", публікавала свае вершы ў заходнебеларускіх выданьнях. Вядомае яе ліставаньне з Антонам Луцкевічам адносна перакладаў з Р. Кіплінга і тэксты асобных перакладаў. Пазнаёміўшыся з Максімам Танкам, захавала зь ім, нягледзячы на наступныя вірлівыя часы, творчае сяброўства.



Пасьля пачатку Другой сусьветнай вайны муж Арсеньневай у складзе польскага войска браў удзел у змаганьні супраць нацыстаў, потым трапіў у савецкі палон, быў у лягеры Старабельск. У час савецкай акупацыі Заходняй Беларусі Арсеньнева жыла ў Вілейцы, працавала ў абласной "Сялянскай газэце". У красавіку 1940 году яе, як жонку польскага афіцэра, выслалі з сынамі ў Казахстан. У траўні 1941 году, дзякуючы заступніцтву беларускіх пісьменьнікаў, найперш Янкі Купалы, Арсеньнева вярнулася з высылкі, атрымала дазвол жыць у Менску.

Пасьля пачатку нямецкае акупацыі Натальля Арсеньнева працавала ў наваствораннай "Беларускай газэце". Пасьля свайго віленскага юнацтва найлепшаю парою свайго жыцьця яна лічыла працу ў "Беларускай газэце" падчас акупацыі і ўдзел у працы тагачаснага Менскага тэатру. Яна была вельмі ўражаная ўсеагульным уздымам і энтузіязмам тагачаснай беларускай інтэлігенцыі. Напісала некалькі лібрэта да опэраў, займалася перакладамі, была сябрам Беларускага Навуковага Таварыства. У 1943 годзе ад выбуху міны ў Менскім тэатры загінуў яе старэйшы сын. У той час на першы плян у ейнай творчасьці выйшлі нацыянальна-патрыятычныя і гістарычныя матывы і творы рэлігійнага зьместу. У 1944 г. у Менску выйшаў другі зборнік вершаў "Сягоньня". У ім былі надрукаваныя "Песьня каліноўцаў" і верш да 25-х угодкаў скліканьня Ўсебеларускага Кангрэсу, "А ўсё ж будзем жыць", "Жыве Беларусь!", "Хай грыміць" ды інш. У 1944 г. Арсеньнева была ўдзельніцай Другога Ўсебеларускага Канрэсу і неўзабаве з сынам выехала на Захад.

Пасьля вайны жыла ў лягерох для перамешчаных асобаў (ДП), актыўна ўдзельнічала ў культурнай і асьветніцкай дзейнасьці, выкладала ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, якую яна называла, як і Віленскую беларускую гімназію ў часы свайго юнацтва, "кузьняй беларускага духу". У 1950 годзе паэтка зь сям'ёю перабралася ў ЗША, дзе яна жыла спачатку ў горадзе Нью-Ёрку, пазьней – у горадзе Рочэстары ў штаце Нью-Ёрк. Ёй напачатку давялося займацца некваліфікаванай працай, але гэта не перашкаджала грамадзкім беларускім справам. Яна працавала ў газэце "Беларус", на радыё "Свабода", брала чынны ўдзел у працы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку.

Па ўспамінах сп. Вітаўта Кіпеля, Натальля Арсеньнева была сапраўды дзейнай грамадзкай актывісткай, заўсёды пагаджалася выступіць на самай, здавалася б, невялічкай імпрэзе, імкнулася ў кожны спосаб паспрыяць разьвіцьцю й падтрымцы беларускага грамадзкага жыцьця. Яе вершы часта зьяўляліся на старонках беларускага друку ў Амэрыцы. Вялікі збор твораў Натальлі Арсеньневай "Між берагамі" выйшаў у Нью-Ёрку–Таронта ў 1979 г. Да апошніх гадоў жыцьця паэтка цікавілася навінамі зь Беларусі, з ахвотаю прыймала гасьцей адтуль. Памерла Натальля Арсеньнева ў 1997 годзе.

У савецкай Беларусі творы Натальлі Арсеньневай былі забароненыя, і дасюль творчасьць выдатнай беларускай паэткі з ідэалягічных прычынаў замоўчваецца ў сучаснай постсавецкай Беларусі.

Тым ня менш зь сярэдзіны 1980-х гадоў творы Натальлі Арсеньневай становяцца вядомымі й папулярнымі, асабліва верш "Малітва за Беларусь". Пакладзены на музыку кампазытарам Міколам Равенскім, ён стаў гімнам "Магутны Божа". У гонар гэтага твору сёньня названы фэстываль духоўнай музыкі. Безумоўна, раней ці пазьней творчасьць Натальлі Арсеньневай стане на адпаведнае высокае месца ў будучай вольнай Беларусі.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Make tea not war

Нядаўна ў беларускім сэгменце сусьветнага павуціньня, пракацілася гісторыя пра хлопчыка, якога пакрыўдзілі ў краме за слова “гарбата”. Пасьля аказалася, што хлопчык гэты ашуканец, а гісторыя адбылася ня зь ім, а з ягоным сябрам. У наш час проста вельмі модна быць ахвяраю. Пра гэты сындром ужо столькі разоў было сказана, што я на гэта адрэагаваў толькі пара-лінгвістычным камэнтаром “цярпець не магу слова гарбата”. Мае беларускамоўныя дзяды і сваякі ўспрымалі гэтае слова як замежнае і ў нас (дарэчы, на тэрыторыі, якая была ў складзе міжваеннай Польшчы) заўсёды выкарыстоўвалася беларускае слова “чай”. Вядомы мавазнаўца Юрась Пацюпа, у адказ на такую дзёрзкасьць, напісаў цэлы лёнг-рыд у абарону слова “гарбата”.




Хоць нашыя бездыплёмныя неадыскрыптывісты прыдумалі міт пра гарбату, якая зь зёлак і чай, які “магазінны”, але існаваньне ў мове двух словаў, якія, тым ня менш, абазначаюць тое ж самае, неабгрунтаванае. Паміж імі абавязкова будзе існці змаганьне. Але змаганьне гэтае не лінгвістычнае, а, як аказваецца, геапалітычнае, і пачалося ня ў гэтым і нават не ў папярэднім стагодзьдзі.

Калі зёлкі нашыя продкі безумоўна ведалі і без кітайцаў, то найбольш пашыраны сёньня гарачы напой у Беларусь трапіў менавіта з Кітаю. Вядома ж, не напрамую, як цяпер, а праз Расею. Нашыя змагары незадаволеныя ня тым, што чай не расьце ў Беларусі, а тым, што прывозілі яго расейцы, і што слова, быццам, прыйшло ў беларускую праз расейскую. Само ж слова кітайскае “ча” і зусім ня факт, што прыйшло да нас праз расейскую, бо чай называюць чаем, усе з выключэньнем палякаў, славяне, але таксама грэкі і туркі, якіх ад расейскай даста접 дакладна не залежалі. Пашырэньне слова чай і гарба(та)-tea добра прадстаўленае на карце распаўсюду. Тое, што пастаўлялася па зямлі, захавала арыгінальна кітайскую форму – ча, тое, што транспартавалі па моры ангельцы – пашырылася пад ангельскім – tea. Здавалася б, усё банальна і проста, але чай – гэта больш, чым гарбата, а гарбата – ня менш, чым чай...

Пра гэта могуць засьведчыць амэрыканцы, бо іх незалежнасьць пачалася як раз з чаю. Бостанскае чаяпіцьце – напад на караблі брытанскіх кампаніяў, якія пастаўлялі чай у Амэрыку, стаў прычынаю напружаньня паміж брытанскай каронай і 13 штатамі, падштурхнула да сутыкненьняў паміж войскамі, што ўрэшцэ выклікала Амэрыканскую рэвалюцыю і прывяло да ўзьнікненьня ЗША. А вы кажаце рабіце чаёк, а не вайну.

**Віталь ВОРАНАЎ**

---

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

А. Агееў ..................60

**Шчыры дзякуй!**

---

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

**Аплаціць складкі можна таксама на штомесячных сходах.**

---

## Абвестка

Штомесячныя сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

Сачыце за абвесткамі на старонцы "Пагоні" ў Фэйсбуку: **https://www.facebook.com/groups/134811029970802/?ref=group_header"**

---

*Паважаны **Ю. Акуліч** і **К. Буяр,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

---

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

А. Агееў ..................30
А. Крыж ..................30

**Усім шчыры дзякуй!**

---

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску таксама можна афарміць на сайце **www.e-krama.com***